*Ветрана і да 6 градусаў цяпла будзе ў Беларусі ў выхадныя.*

**№ 7 (4465)**

24 студзеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ**

### Каб і ў лютым на Вашым стале была «Народная Воля»...

Рэдакцыя ўдзячна ўсім чытачам “Народнай Волі”.

У той жа час нагадваем: каб не застацца без любімай газеты ў лютым, 1782 чалавекам неабходна прадоўжыць падпіску. Не спазніцеся – зрабіце гэта, калі ласка, да 28 студзеня.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

## Кошт тоны нафты на сусветным рынку – прыкладна 500 долараў, а вады з экалагічна чыстых крыніц – амаль 800 долараў.

## Чаму Беларусь, якая мае велізарныя запасы пітной вады, не можа задзейнічаць гэты прыродны рэсурс і сур’ёзна папаўняць дзяржаўны бюджэт?



**СКАЗАНА!**



### Антоніу ГУТЭРЫШ,

**Генеральны сакратар Арганізацыі Аб’яднаных Нацый:**

– Нягледзячы на велізарныя выгоды, якія нясуць новыя тэхналогіі, некаторыя выкарыстоўваюць іх для здзяйснення злачынстваў, распальвання нянавісці, распаўсюджвання фейкаў, прыгнёту і эксплуатацыі людзей, а таксама для парушэння прыватнага жыцця.

**ПРАГНОЗ**

## Чаканая працягласць жыцця ў Беларусі да 2030 года павінна скласці 80 гадоў

Чаканая працягласць жыцця ў Беларусі да 2030 года павінна скласці 80 гадоў, паведаміла журналістам міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч.** Гэта прадугледжана праектам нацыянальнай стратэгіі Беларусі «Дастойнае даўгалецце – 2030», які разглядаецца на пасяджэнні Нацыянальнага камітэта па народанасельніцтве пры Саўміне.

«Мэта стратэгіі – максімальна павысіць узровень і якасць жыцця пажылых людзей. У дакуменце шэсць задач, па кожнай з іх ёсць канкрэтныя індыкатары, да якіх мы будзем імкнуцца. Калі гаварыць у сукупнасці, галоўная мэта – павялічыць працягласць жыцця. Калі апошнія даныя па працягласці жыцця – 74 з палавінай гады, то задача да 2030 года выйсці на 80», –адзначыла Ірына Касцевіч.

Міністр канстатавала, што дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі характарызуецца старэннем насельніцтва. «Колькасць грамадзян ва ўзросце старэйшым за 65 гадоў – большая за 15 працэнтаў. Эксперты ААН гавораць аб тым, што калі звыш 7 працэнтаў людзей у краіне старэйшыя за 65 гадоў, насельніцтва лічыцца старым. Чакаецца, што ў 2030 годзе ў Беларусі доля пажылых людзей складзе 21 працэнт», – прывяла дадзеныя Ірына Касцевіч.

*(БЕЛТА.)*

**ТРЫВОЖНА!**

## У Кітаі зачыняюць горад за горадам, а ў Пекіне адмовіліся ад святкавання Новага года

Так, з-за віруса 2019-nCoV у Кітаі часова зачынілі камунікацыю з некалькімі гарадамі, а Пекін адмяніў усе святы з нагоды кітайскага Новага года.

У чацвер былі перакрыты для ўсіх відаў транспарту галоўныя дарогі, што вядуць у 11-мільённы горад Ухань у правінцыі Хубэй. Адменены аўтобусныя і чыгуначныя зносіны з горадам Хуанган, дзе пражывае каля сямі мільёнаў чалавек, і горадам-мільённікам Эчжоў у правінцыі Хубэй.

У гэты ж час урад сталіцы краіны – Пекіна – адмовіўся ад правядзення ўсіх буйных навагодніх мерапрыемстваў, уключаючы храмавыя кірмашы.

Паводле звестак на ўчарашні дзень, колькасць загінуўшых ад кітайскага каронавіруса 2019-nCoV узрасла амаль да 20 чалавек.

*(Працяг тэмы на 5-й стар.)*

**АФІЦЫЙНА**

## Беларускія медыкі маюць у распараджэнні рэактывы для выяўлення новага штама каранавіруса

Аб гэтым заявіў журналістам міністр аховы здароўя Беларусі **Уладзімір Каранік.**

«Цяпер мы атрымалі ўсе рэактывы, якія даюць магчымасць выяўляць менавіта гэты вірус 2019 года - новы штам, што быў выяўлены ў КНР», - сказаў міністр.

Як паведамлялася, 31 снежня ўлады Кітая інфармавалі Сусветную арганізацыю аховы здароўя аб успышцы невядомай пнеўманіі ў горадзе Ухань. 7 студзеня кітайскія медыкі ўстанавілі ўзбуджальніка хваробы - каранавірус 2019-nCoV. Лабараторнае тэсціраванне праведзена ва ўсіх выпадках захворвання з падазрэннем на новую пнеўманію.

Каранавірусы - сямейства з больш як 30 вірусаў, якія былі ўпершыню выдзелены ў 1965 годзе. Каранавірусы заражаюць людзей, свойскіх жывёл, свіней, буйную рагатую жывёлу, птушак і здольны праваказаць пашкоджанне дыхальнай сістэмы, страўнікава-кішачнага тракта, нервовай сістэмы.

**БЕЗ ЭМОЦИЙ**

## У Анны Ильницкой – грипп

Вчера с утра почти все негосударственные сайты накручивали страсти вокруг 20-летней Анны Ильницкой, которая вернулась из Китая и, возможно, заразилась там коронавирусом.

К вечеру выяснилось, что нет смысла тревожиться за жизнь девушки. Пресс-секретарь Минздрава **Юлия Бородун** подтвердила, что в Минскую инфекционную больницу действительно была госпитализирована пациентка с жалобами на боли в мышцах, повышение температуры тела до 38,5°С, кашель. Был проведен консилиум с участием главного врача Минской инфекционной больницы **Николая Юровского**, заместителя главного врача по медицинской части **Святослава Вельгина** и заведующего кафедрой инфекционных болезней БГМУ, доктора медицинских наук, профессора **Игоря Карпова**. Выставлен диагноз, который подтвержден лабораторно, – грипп В средней степени тяжести.

Следует заметить, что Министерство здравоохранения Беларуси отслеживает ситуацию с коронавирусом нового типа в мире, усилены профилактические мероприятия по недопущению его распространения в стране. В аэропортах усилен санитарно-карантинный контроль пассажиров.

**Нина КОВАЛЬ.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**



**Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук**

## Просели...

По первой оценке Белстата, прирост валового внутреннего продукта по итогам 2019 года составил всего лишь 1,2 процента. Это в разы меньше необходимых темпов прироста экономики, которые были обнародованы ранее для достижения нового фетиша – 100 миллиардов долларов ВВП Беларуси в 2025 году.

Чтобы выйти на этот сказочный рубеж, надо прирастать под 10 процентов ежегодно. Но правительство запланировало на текущий год рост 2,8 процента. С темпами, которые имеем, выйдем по ВВП на 100 миллиардов «зеленых» лет этак через 10–15.

Проблема – в экономике. Объем промышленного производства в 2019 году вырос всего на 1 процент, при этом складские запасы увеличились на 14,9 процента, то есть многие предприятия привычно работали на склад. Если весь прирост ВВП принять за 100 процентов, то доля промышленности составила 19 процентов. Почти половину прироста ВВП дал сектор информационных и коммуникационных технологий. Сельское хозяйство – 17 процентов, и 14 обеспечило строительство. Просевшими секторами экономики стали оптовая торговля и транспорт, наиболее пострадавшие от попадания грязной нефти в трубопровод «Дружба». Подвел и упавший экспорт калийных удобрений. Выпуск грузовых автомобилей на МАЗе сократился в прошлом году на 15,8 процента, автобусов – на 7,2, на БЕЛАЗе производство карьерных самосвалов также упало на 21,1 процента. Выручает завод «БЕЛДЖИ», который добавил производство легковых автомобилей на 86,6 процента. Могилевская область увеличила по сравнению с 2018 годом выпуск грузовых вагонов в 2,3 раза.

Номинальный ВВП Беларуси в долларовом эквиваленте на душу населения сегодня составляет 6480 «зеленых». У наших соседей этот показатель существенно выше: в Латвии – 17.855 долларов, в Литве – 19.225, в Польше – 15.205 и в России – 11.265 долларов. По понятным причинам отстает Украина – 3980 долларов на человека. Характерно, что за пять последних лет в странах Балтии и Польше ВВП на душу населения прибавлял, а вот в России, Беларуси и Украине падал. В России он обвалился на 4725 долларов, в Беларуси – на 1470. Регресс в этих экономиках очевиден.

Белорусская экономика вошла в 2020 год под грузом проблем, связанных с российским интеграционным ультиматумом. НПЗ недозагружены нефтяным сырьем, уже был приостановлен экспорт нефтепродуктов. «Беларуськалий» до сих пор не имеет заключенного контракта с основным покупателем наших удобрений – Китаем. По большому счету январь, считай, потерян для белорусской экономики. Премьер-министр С.Румас не так давно заявил, что ресурсы действующей модели экономики Беларуси практически исчерпаны. Глава же государства сказал, что слома этой модели не будет. Она как была, так в своей основе и остается. Уже с начала года видно, как болезненно Беларусь пытается слезть с российской нефтяной иглы, что делать надо было куда раньше. Белорусским предприятиям все тяжелее не только пробиваться на рынки стран «дальней дуги», ЕС, но и сохранять свои позиции на традиционном российском рынке. Со сменой ключевых министров в правительстве России экономическое давление на Беларусь не только не ослабнет, а скорее усилится. Нужно в первую очередь думать, как отстоять свой суверенитет. Путин от идеи поглощения Беларуси никогда не откажется, как и не уйдет из власти.

А 100 миллиардов ВВП? Это вопрос вопросов.

**СТОП-КРАН**

## Нахабства без межаў

*Літоўцы затрымалі на мяжы беларускіх кантрабандыстаў на грузавіках.*

Яны не рабілі для кантрабандных цыгарэт спецыяльных схованак, а проста загрузілі іх у машыны і мінімальна замаскіравалі.

Агулам літоўскія памежнікі знайшлі 121 тысячу кантрабандных цыгарэт на суму каля 424 тысяч еўра. Кіроўцаў, грамадзян Беларусі, затрымалі, праводзіцца папярэдняе расследаванне.

**ДЫПКУР’ЕР**



### Дзмітрый МЕЗЕНЦАЎ,

**Надзвычайны і Паўнамочны Пасол Расіі ў Беларусі:**

**Нягледзячы на адрозненні ў пазіцыях бакоў, аптымальныя рашэнні па нафтагазавых пытаннях павінны быць знойдзены.**

Пасол падкрэсліў, што расійскі бок улічыць запыт Беларусі і гатовы кампенсаваць шкоду, нанесеную ў мінулым годзе беларускім нафтаперапрацоўчым прадпрыемствам у выніку паставак няякаснай сыравіны.

«У адпаведнасці з запытам і дакументальна пацверджанымі стратамі, панесенымі беларускімі нафтаперапрацоўчымі заводамі ў сувязі з пастаўкамі няякаснай нафты у 2019 годзе, расійскі бок гатовы кампенсаваць шкоду. Такая пазіцыя і ў гэтым выпадку паказвае прыхільнасць саюзніцкім адносінам», – адзначыў Дз.Мезенцаў паводле інфармацыі ТАСС.

**СТАЛА ВЯДОМА...**

## У 2019 годзе вучонае званне прафесара прысвоена 38 вучоным Беларусі, дацэнта – 351 суіскальніку



**Учора ў Палацы Незалежнасці адбылася афіцыйная цырымонія ўручэння прэзідэнтам краіны дыпломаў доктара навук і атэстатаў прафесара навуковым і навукова-педагагічным работнікам.**

(Фота belta.by.)

**КРЫМІНАЛ**

## Крадуць...

У адным з бабруйскіх магазінаў пакупнік спрабаваў скрасці гарэлку і марожанае: схаваў пад куртку і кінуўся наўцёкі. Работніку магазіна давялося бегчы аж паўкіламетра, каб затрымаць злодзея. Была заведзена крымінальная справа па ч.2 арт.206 КК РБ – “Рабаванне”.

А ў Вілейцы жанчына скрала ў магазіне мужчынскія штаны коштам каля 64 рублёў. Калі яе знайшлі і затрымалі, яна ўжо паспела прадаць скрадзены тавар за 20 рублёў. Штаны каштавалі жанчыне... 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

**Віктар ШПАК.**

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

## Каго дапытаюць па справе Юрыя Захаранкі?

*Следчы камітэт да 18 лютага працягнуў тэрмін папярэдняга расследавання знікнення былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі.*

*Паведамленне пра гэта атрымаў праваабаронца Алег Волчак, які прадстаўяе інтарэсы сям’і Захаранкі.*

Нагадаем, што расследаванне адноўлена з 18 снежня 2019 года – праз два дні пасля таго, як у інтэрв’ю DW былы баец беларускага САХР **Юрый Гараўскі** заявіў, што ўдзельнічаў у выкраданні і забойстве экс-кіраўніка МУС Захаранкі.

Цікава, ці выклікаюць на допыты па справе Захаранкі тых, чые прозвішчы назваў Гараўскі?

Дарэчы, Следчы камітэт таксама аднавіў расследаванне крымінальных спраў па факце знікнення бізнесмена **Анатоля Красоўскага** і былога старшыні Цэнтрвыбаркама **Віктара Ганчара**.

Следчыя мерапрыемствы не вядуцца зараз толькі па справе тэлеаператара **Дзмітрыя Завадскага**. Начальнік упраўлення галоўнага следчага ўпраўлення палкоўнік юстыцыі **А.Васілюк** палічыў, што словы Гараўскага не з’яўляюцца сур’ёзнай падставай для аднаўлення справы, пра гэта ён напісаў у адказе на хадайніцтва ўдавы Дзмітрыя аднавіць справу.

**Святлана Завадская** мае намер абскардзіць рашэнне Следчага камітэта.

*“Так, ёсць людзі, якіх асудзілі за выкраданне Дзімы, але я дагэтуль не ведаю, дзе ягонае цела, што з ім здарылася*, – гаворыць Святлана. – *І я не ведаю, што за гэтыя дваццаць гадоў зрабіла следства, каб адказаць на гэтыя пытанні. Сёння з’явіўся чалавек, які кажа, што можа дапамагчы вызначыць неўстаноўленых асоб, якія забівалі Завадскага. А Следчы камітэт лічыць яго словы няважнымі!”*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Две стороны медали

За ненадлежащее исполнение родительских обязанностей в нашей стране лишают родительских прав. Верховный суд опубликовал соответствующую статистику. За 2019 год в Беларуси родительских прав лишены 1013 женщин и 1661 мужчина – родители 3179 детей.

Безумная цифра! И еще хорошо, если есть бабушки с дедушками, которые готовы принять на себя ответственность за ребенка – родную внучку или внука, заботиться о них. Но ведь есть дети, которых просто передают в социальные учреждения – к чужим «дядям» и «тетям», которые, какими бы добрыми и порядочными ни были, все равно чужие.

Показатели колеблются. Один год родительских прав лишают чуть большее число взрослых, другой год – меньшее. Но дело ведь не в показателях. Называйте их как хотите, но само существование этой приблизительно сохраняющейся цифры в нашей судебной статистике – свидетельство болезни общества. Взрослые, которые не понимают, чего они лишаются, и фактически добровольно идут навстречу столь страшному наказанию, как изъятие детей из семьи, – больны.

Во времена моей юности популярным был телевизионный фильм «Хозяйка детского дома» с двумя великолепными актрисами в главных ролях – Натальей Гундаревой и Людмилой Поляковой. Мелодраматическая история о том, как мать, отказавшаяся в молодости от ребенка, устраивается на работу в детский дом, чтобы хоть краем глаза видеть его, иметь возможность дать ему конфету, приласкать. Я помню, как моя мама сидела у экрана и плакала, глядя на героиню Поляковой. Нет, их судьбы не были схожими. Но женщина, отдававшая всю себя единственному ребенку, не могла понять, как другая могла совершить такой поступок. И плакала, сочувствуя не столько матери, отказавшейся от ребенка, сколько ребенку, оставшемуся без семьи – при живой матери.

А есть ведь и другая сторона медали.

Братьям Костевым из Черикова, 19-летнему Станиславу и 21-летнему Илье, 10 января вынесен первый в наступившем 2020 году смертный приговор. За убийство учительницы, которая, по их мнению, угрожала их сестре тем, что отнимет у нее детей. Страшная история!

Еще более страшной она становится тогда, когда ты начинаешь вдумываться в смысл случившегося. Трое братьев и сестра когда-то оказались в детском доме. Их мать отбывает наказание на поселении за неуплату алиментов. И само убийство было продиктовано страхом, что племянники повторят их собственную судьбу – ведь что может быть страшнее, чем то, что ребенка отнимают у матери?

Я не оправдываю убийц. Убийству нет оправдания. Но кто так ожесточил этих в общем-то еще мальчишек? Вспомните, сколько раз на нашей с вами памяти государство угрожало, так сказать, «политически неблагонадежным» родителям тем, что отнимет у них детей. Случаи хорошо известны, перечислять не стоит. Неужели те, кто предложил носителям высшей власти такой способ шантажа политических оппонентов, думали всерьез, что они этим заставят полюбить государство? Или – как в случае с Костевыми – сумеют прервать цепь безразличия? Не может такого быть. Отъем детей у родителей – признание всеобщей беспомощности государства в решении социальных проблем, а поступок Костевых – следствие этой беспомощности и проявление страха перед ней.

Опубликовано интервью с сестрой осужденных на смертную казнь Костевых Анной. Она рассказывает, как один из братьев просил привезти ему фотографии племянников. Детей, которых – в случае приведения в исполнение смертного приговора – у него никогда не будет. И о том, как оба брата спрашивали ее:

– Как там мама?

Осужденная, фактически лишенная прав, она все равно остается для них мамой. Единственным человеком, о чьем прикосновении – ко лбу, когда температура, к щеке, когда грустно, к плечу, когда нужна поддержка, – они могли бы мечтать. Если бы у них оставалась надежда на жизнь.

Достоевский писал:

– Бедность не порок. Нищета – порок.

Духовная нищета общества порождает общественные пороки. Да, преступники будут в каждой стране, как были они во все времена даже в самых богатых государствах. Но тем, что у нас считают «исключительной мерой наказания», смертная казнь на самом деле никогда не являлась. Исключительной мерой наказания было и остается как раз лишение родительских прав. Только наказывают таким образом детей, а вовсе не родителей! Причем наказывают на всю жизнь, иногда сильно сокращая ее – что и случилось с братьями Костевыми. Детей отняли у матери, чтобы в конце концов казнить их.

Страшная история. Никакой кинематограф не справится.



ЧУЛІ?

## Распачаўся збор сродкаў на святкаванне Дня Волі

*Аргкамітэт па правядзенні святкавання 102-х угодкаў з моманту абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, у які ўваходзяць Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Аб'яднаная грамадзянская партыя, Аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская дэмакратыя» і рух «За Свабоду», абвясціў пра пачатак збору сродкаў для арганізацыі мітынгу-канцэрта ў сталіцы.*

*Збор сродкаў будзе адбывацца на краўдфандынгавай платформе molamola.by*

Арганізатары маюць намер правесці мерапрыемства ў нядзелю 22 сакавіка напярэдадні святочнай даты.

Час і месца мітынгу-канцэрта будуць вызначаны канчаткова пасля перамоў з Мінскім гарвыканкамам.

Цяпер складаецца праграма мерапрыемства, вырашаецца пытанне тэхнічнага аснашчэння пляцоўкі, а таксама ідуць перамовы з музычнымі гуртамі, спіс якіх будзе прадстаўлены грамадскасці ў самы бліжэйшы час.

Таксама аргкамітэт заклікае далучацца да арганізацыі мітынгу-канцэрта валанцёраў, якія жадаюць дапамагчы ў правядзенні святочнага мерапрыемства.

Арганізатары звяртаюцца да грамадскасці з просьбай высылаць свае прапановы па лагатыпе Дня Волі – 102 да 15 лютага 2020 г. на паштовы адрас 102bnr@gmail.com. Пасля гэтай даты аргкамітэт вызначыць, пад якім лагатыпам будзе адбывацца мерапрыемства.

У аргкамітэт па святкаванні БНР-102 уваходзіць большасць арганізацый-заяўнікаў канцэрта каля Опернага тэатра ў Мінску ў 2018 годзе і арганізатары мітынгу-канцэрта ў Кіеўскім скверы ў Мінску ў 2019 годзе.

**Галіна РУТ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

Сяргей СТРЫБУЛЬСКІ:

## «На гэтым тыдні ў мяне нарадзілася дачка…»

*Адзін з фігурантаў «справы «Белага легіёна» распавёў «Народнай Волі» пра свой зварот у ААН і цяперашняе жыццё.*

Днямі стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў скаргі былых фігурантаў «справы «Белага легіёна» **Віктара Данілава, Андрэя Дундукова, Віктара Мароза і Сяргея Стрыбульскага.**

Нагадаем, што ў 2017 годзе была распачата гучная крымінальная «справа «Белага легіёна», якую вёў спачатку КДБ, а затым Следчы камітэт. У межах гэтай справы Данілаў, Дундукоў, Мароз і Стрыбульскі сярод многіх іншых абвінавачваліся ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў і стварэнні незаконнага ўзброенага фарміравання.

Паўтара дзясятка абвінавачаных, у тым ліку гэтыя чацвёра, правялі пад вартай каля ста дзён. У выніку віна іх не была даказана, а справу спынілі за адсутнасцю складу злачынства, і яна нават не дайшла да суда.

Данілаў, Дундукоў, Мароз і Стрыбульскі спрабавалі праз суд дамагчыся рэабілітацыі і кампенсацыі маральнай шкоды, але ім было адмоўлена.

– Мы вырашылі прайсці ўсе ступені, таму і звярнуліся ў Камітэт па правах чалавека ААН, – кажа **Сяргей Стрыбульскі**. – Працуем на будучыню. Некалі ж сітуацыя ў краіне зменіцца, і неабходна, каб нашчадкі не забываліся пра брудныя справы, якія тварылі ўлады.

У якой краіне такое можа быць?! Дзясяткі людзей на некалькі месяцаў кінулі за краты, публічна заявілі, што яны, маўляў, ледзь не тэрарысты, а затым закрылі справу і зрабілі невінаватыя вочкі.

**– Колькі часу вы правялі ў следчым ізалятары?**

– 99 дзён, хаця некаторыя хлопцы і больш прасядзелі. Да гэтага часу ўспамінаю тыя падзеі, хаця, шчыра кажучы, ва ўсім дрэнным можна знайсці і нешта добрае. Напрыклад, да таго, як апынуўся ў СІЗА, у мяне практычна не было часу, каб нешта пачытаць. Жыццё шалёнае, праца… А за тры месяцы знаходжання ў ізалятары я перачытаў даволі шмат кніг.

**– Праз суд вы спрабавалі дамагчыся кампенсацыі маральнай шкоды…**

– Мы разумелі, што наўрад ці нешта атрымаем, але за тое, што людзей беспадстаўна кінулі за краты, маглі б прынесці хаця б прабачэнні. Ды і абвінавачванні ж былі сур'ёзныя: падрыхтоўка масавых беспарадкаў, стварэнне незаконнага ўзброенага фарміравання. Таму абскарджваць гэты абсурд і незаконнае ўтрыманне ў СІЗА было неабходна.

**– А якім чынам вы патрапілі ў гэтую «бандыцкую групоўку»?**

– Гэтую групоўку сілавікі фарміравалі, таму ў іх найперш трэба спытацца, якім чынам я туды патрапіў. Адно магу сказаць: у так званыя экстрэмісты запісалі ўсіх нацыянальна арыентаваных людзей, якія любяць Беларусь і ў якіх баліць душа за Бацькаўшчыну.

Таму кампанія сабралася не самая дрэнная, з многімі мы былі знаёмы. Улады з нас хацелі зрабіць нейкае пудзіла, каб застрашыць грамадства, але мне падаецца, што яны ў гэтай сітуацыі самі з сябе пудзіла і зрабілі.

**– Чым вы зараз займаецеся?**

– Пасля таго як справу закрылі, нейкі час працаваў за мяжой, але зараз вярнуўся дадому, бо патрэбна была мая дапамога. На гэтым тыдні ў мяне нарадзілася дачка…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАТЭСТ

Мікалай САЛЯНІК:

## «Я прывязаўся ланцугом у судзе, бо болей не магу цярпець здзек...»

### Незвычайны перформанс

У мінулы аўторак у Гродзенскім абласным судзе разглядалі скаргу актывіста **Мікалая Саляніка** на рашэнне Кастрычніцкага суда, які аштрафаваў яго на 45 базавых велічынь (1147,5 рубля) за ўдзел у акцыі супраць паглыблення інтэграцыі Беларусі і Расіі.

У абласны суд ён прыйшоў з паголенай «пад краты» галавой, накінуўшы на плечы бел-чырвона-белы сцяг, а на спіну наляпіўшы партрэт Аляксандра Лукашэнкі, і прычапіў сябе ланцугом да стойкі ў зале суда.

У суд актывіст прынёс дакументы сваякоў, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны, падкрэсліваючы гэтым думку: яны загінулі за Незалежнасць, а цяпер, маўляў, яго судзяць за тое, што ён адстойвае суверэнітэт краіны.

Суддзя, пабачыўшы, што ён прычапіў сябе ланцугом, пакінуў залу суда. У будынак прыбылі супрацоўнікі МНС, міліцыі і хуткай дапамогі, паколькі Саляніку стала дрэнна (ён інвалід другой групы і пакутуе на хваробу сэрца).

Яго вывелі з залы суда, вызваліўшы ад ланцуга. Ад шпіталізацыі Салянік адмовіўся, і яго павезлі ў РАУС. Тым часам у іншым пакоі суддзя вынес рашэнне: адмовіць Саляніку ў задавальненні скаргі.

### «Хуткую выклікалі яшчэ двойчы»

– Я пазней апынуўся ў ізалятары часовага ўтрымання, мне паўторна выклікалі хуткую дапамогу, урачы зрабілі ўкол, і я застаўся адзін у камеры, – распавядае Салянік. – Потым хуткую выклікалі яшчэ раз, бо шчаміла сэрца, узнімаўся ціск. На маю просьбу патэлефанаваць родным адмаўлялі. Але самае страшнае было тое, што я нічога не еў і не піў, не прымаў таблетак, мне не далі нават шклянкі вады, а гэта пры маёй хваробе самае страшнае.

Раніцай а 7-й гадзіне з ізалятара Саляніка, паводле яго слоў, прывезлі ў Ленінскі РАУС, дзе над ім адбыўся чарговы суд. Яго асудзілі на 405 рублёў за непавагу да суда.

### «Колькі можна прыніжаць нашу годнасць?»

Я пацікавіўся ў Мікалая, навошта ён учыніў такі перформанс у судзе, ведаючы, што гэта можа пашкодзіць яго здароўю.

– Шчыра скажу, што я два тыдні да гэтага рыхтаваўся, не спаў, – слабым голасам адказвае Салянік. – Ну нельга ж дазваляць так здзекавацца з нас! Яны па адным і тым жа сцэнарыі дзейнічаюць ужо больш за 20 гадоў. Я вырашыў, што нават калі стану ахвярай, то гэта будзе нейкім урокам для іншых, бо колькі яшчэ можна прыніжаць нашу годнасць?!

### «Каб не казалі, што мы з усім пагаджаемся...»

Мікалай прызнаецца, што сям'я на яго вельмі пакрыўдзілася, бо ён нікога не папярэдзіў аб тым, што сабраўся зрабіць. Маўляў, яны ўвесь час тэлефанавалі ў міліцыю і дабіваліся, каб ім паведамілі пра яго здароўе, хваляваліся, не маглі заснуць.

– Ёсць такія дзівакі кшталту мяне. Але нехта павінен вось так адкрыта змагацца, каб не казалі потым, што наша нацыя пасіўная, што мы з усім пагаджаемся, – кажа Мікалай Салянік. – Незалежнасць краіны дорага каштуе і так проста не даецца.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

РЭГІЁН

## Знайшлі старажытныя муры «Дома рыбака»

У цэнтры Гродна на вуліцы Замкавай, дзе зараз вядуцца падрыхтоўчыя работы для аднаўлення так званага Дома рыбака, рабочыя раскапалі руіны муроў старажытнага каменнага будынка. Археолагі прадказвалі, што рэшткі забудовы павінны быць на гэтым месцы, і зараз яны ўдакладняюць іх узрост.

Уцалелыя муры скляпенняў будынка выкладзены з цэглы, і ў кладцы шмат вялікіх камянёў. Добра відаць, што скляпенне падзелена на два пакоі, злучаныя між сабой праходам.

Некаторыя з археолагаў выказалі здагадкі, што гэтыя ж скляпенні яшчэ ў XVI стагоддзі былі і пад Домам рыбака. Згодна з архіўнымі дадзенымі, на гэтым месцы знаходзіўся аднапавярховы каменны дом, у якім жыў кіраўнік гродзенскага цэха рыбакоў. У 1960 годзе цэлы квартал на вуліцы Замкавай быў знесены.

Літоўскі інвестар Томаш Пецюль, уладальнік фірмы «ДТ-Груп», якая праводзіць будаўнічыя работы на вуліцы Замкавай у Гродне, сказаў «Народнай Волі», што пакуль дзейнасць на аб'екце спынена, і навукоўцы займаюцца дакладным высвятленнем часу пабудовы знойдзеных скляпенняў.



«Калі мы будзем мець ужо канкрэтныя дадзеныя аб гэтай забудове, тады і прымем рашэнне аб тым, што з ёй рабіць: захаваць альбо перабудаваць», – зазначыў Пецюль.

Нагадаем, што ў 2017 годзе ўчастак зямлі на вуліцы Замкавай у Гродне быў набыты літоўскім інвестарам на аўкцыёне. Згодна з яго ўмовамі, на гэтым месцы дазвалялася пабудаваць трохпавярховы гандлёва-офісны цэнтр. Аднак, вывучыўшы архіўныя дакументы, інвестар прыняў рашэнне аднавіць аўтэнтычную гістарычную забудову ў тым выглядзе, у якім яна падаецца ў архіўных крыніцах.

У трох будынках, якія будуць месціцца адзін каля аднаго, як і ў XVI стагоддзі, павінны з'явіцца рэстаран, кавярня і памяшканні пад офісы.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На здымку: раскопкі на вуліцы Замкавай у Гродне.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## В культуре идет «смена караула»?

В середине января Министерство культуры отправило в отставку директора Белгосфилармонии Александра Гарбара, не продлив контракт топ-менеджеру, который находился на этой должности с 2004 года. Правда, на официальном сайте филармонии до сих пор значится его фамилия в качестве руководителя, но в приемной мне объяснили это тем, что просто ждут (кстати, вторую неделю ждут), пока коллективу будет представлен новый директор. Кто именно? Есть предположение (и эта информация уже не из приемной, естественно), что это будет Максим Приходовский, нынешний заместитель директора Дворца Республики.

Что ж, Министерство культуры, по всей видимости, продолжает обновлять директорский корпус главных государственных учреждений культуры. Все столичные руководители в напряжении. И не напрасно. Осенью с поста генерального директора Большого театра оперы и балета был отправлен в отставку против своей воли В.П.Гридюшко. Хотя в его защиту было организовано письмо, на ход дела это не повлияло, Владимир Павлович остался без своей должности и пока не трудоустроен. И, говорят, вряд ли министерство теперь займется его будущей судьбой: «слишком сильно упирался». А кадры любят тишину.

Теперь новый топ-менеджер будет и в Белорусской государственной филармонии. Конечно, кандидатура М.Приходовского, как теперь говорят, современнее, техничнее. Александр Валентинович Гарбар по сравнению с ним выглядит просто «дедушкой первой русской революции». Мастерил корабли из ракушек, выращивал цветы на подоконниках своего кабинета. Елочки высадил вдоль дорожек у здания филармонии и поставил большую табличку со своим именем – мол, идея генерального директора. Наверное, очень гордился… По образованию Александр Валентинович методист-организатор, окончил в 1981 году Минский институт культуры. Начинал в комсомоле, потом в партии и свои лидерские качества, видимо, достаточно отточил, чтобы стать у руля такого могучего корабля, как Белорусская государственная филармония. И в интервью, насколько помню, любил щеголять цифрами: сколько концертов за год проведено в стенах учреждения.

Но престижа филармонии статистика не добавляла. Ее афиши были иногда унылы и до досадного бедны. Впрочем, это мое личное мнение. Наверняка финансирование не давало возможности сделать афишу богаче.

Тем интереснее будет наблюдать за деятельностью Максима Анатольевича Приходовского, если он все-таки придет на эту должность. Он организатор концертов с немалым стажем. Причем в огромных залах Дворца Республики и стадиона «Минск-Арена». Да, это был в основном шоу-бизнес. Но перейти на классические рельсы ему будет не так уж трудно, в конце концов в филармонии есть опытный художественный руководитель Юрий Николаевич Гильдюк. По крайней мере пока есть. Планы Министерства культуры в направлении смены караула, говорят, радикальные.

**Елена МОЛОЧКО.**

НАЦИОНАЛЬНАЯ ПРОБЛЕМА

# СПАСЕМ СВЯТЫНЮ!

Полоцк…

Невозможно переоценить историческую значимость этого древнейшего города на нашей земле. Он славен с далеких времен как мощный политический, экономический и культурный центр. Его величие нельзя ограничивать лишь периодом Всеслава Чародея и Евфросинии Полоцкой, забывая о том, что и до этого город отличался своим как материальным, так и духовным богатством.

Полоцк – это историко-культурная жемчужина Беларуси, первый на территории Беларуси государственно-политический центр, в истории которого отразились величие и сложность множества проблем формирования нашей страны. Полоцк является нашим лицом и одним из столпов укрепления исторической памяти и единства белорусского народа.

Сегодняшний облик Полоцка, к сожалению, вызывает много вопросов. Он не соответствует былому величию города и его роли в нашей истории. Жаль, что этого не понимают местные чиновники.




Город держится на потенциале, созданном в советский период, в семидесятые-восьмидесятые годы минувшего столетия. И здесь надо отдать должное руководителю историко-культурного заповедника Татьяне Давыдовне Рудовой. Кое-что вписывалось уже в двухтысячные при председателе горисполкома Владимире Степановиче Точило и руководителе историко-культурного заповедника Николае Николаевиче Ильницком. Что касается исторического содержания, то об этом прежде всего говорит экспозиция Полоцкого краеведческого музея, созданного в 1980-е годы в соответствии с концепцией «история Беларуси начинается с 1918 года». Она лишь слегка отражает начальный период истории города, дальше сплошная дыра в 500 лет и какое-то продолжение с 1812 года. И это при том, что в запасниках заповедника находится более 80 тысяч артефактов. Выставочные залы музея занимают всего около 120 квадратных метров, хотя, по мнению специалистов, музей остро нуждается в 1500–2000 квадратных метрах площадей и значительном расширении запасников.

На центральной площади история города начинается с памятника участникам войны 1812 года и памятника освободителям города в Великой Отечественной войне, хотя Полоцк, на мой взгляд, интересен прежде всего начальным периодом нашей истории. Но это почему-то осталось без внимания. Сохранившаяся историческая площадь превращена в мини-парк, закрывающий старую архитектуру и упомянутые памятники с трех сторон. На Верхнем замке, кроме Софии, – пустота и разруха. На улице Нижне-Покровской перед входом на Верхний замок огороды и заросли, а также медвытрезвитель. Даже на подходе к Спасскому монастырю все закрыто ужасными бетонными заборами.

Центральную часть города в некоторой мере спасает восстановленная часть сохранившейся иезуитской академии, в которой расположились Полоцкий университет и картинная галерея. Нигде рядом не видно и намека на существование в прошлом многочисленных уникальных памятников архитектуры.

Проблема малого числа туристов, посещающих Полоцк, очевидна, причина ее в отсутствии наполнения экспозиции города историческим содержанием. Это результат отсутствия цельного видения исторической экспозиции города – концепции регенерации центральной части Полоцка, ее локальных объектов. В результате памятники и культурные программы не связаны в единое целое, не дополняют друг друга, а нередко и вступают в противоречие с архитектурой и историческим содержанием.

В середине 1990-х – начале 2000-х годов достаточно было просто поставить памятник, и никто особо не задумывался над тем, что всё должно гармонично дополнять друг друга. Наиболее очевидный пример – явно неудачное расположение памятника Всеславу Чародею.

Свежий пример – фонтан, в прошлом году уничтоживший площадь Скорины и задвинувший памятник на второй план. Последний вопиющий случай – принятие решения местными властями и финансирование государством размещения на Верхнем замке возле Софии кадетского училища с полной инфраструктурой (общежитие, пищеблок, плац, спортплощадка, спортзал), которого никогда там не было. Училище захватывает более половины площади Верхнего замка, полностью блокируя историко-культурное и туристическое развитие этого сакрального для Беларуси, ее истории и культуры объекта. И всё только для того, чтобы решить коммунальную проблему разваливающихся зданий бывшего больничного комплекса. Неслучайно этот факт вызвал активную реакцию в интернете, причем реакция абсолютного большинства – «ЭТО ВОЗМУТИТЕЛЬНО!». Этого можно было бы избежать при наличии не местечкового кулуарного, а широкого обсуждения проблемы Верхнего замка на республиканском уровне. А поскольку этого не происходит, то случайные должностные лица просто затыкают дыры и прикрываются активной деятельностью, совершая, я считаю, преступление как перед предками, так и перед потомками. Удивительно, что проект согласовали на уровне республики и прежде всего Минкульт и его «профессионалы».

Недавно, видимо, в Администрации президента обратили внимание на, образно говоря, омертвление исторической части города. Местные чиновники не загорелись идеями привнесения какого-то особого колорита в здешние улицы, переулки, скверы. Вместо кропотливой работы они вообще решили умыть руки, вспомнив о предложении пятилетней давности бизнесмена-инвестора из Санкт-Петербурга о размещении в зданиях больничного городка на Верхнем замке кадетского корпуса. Такое решение оказалось выгодно для всех, кроме самого Полоцка и Беларуси, так как позволяет:

– райисполкому, ничего не делавшему по возрождению исторической части города, создать видимость активной деятельности и снять с баланса города разрушающиеся объекты, на которые обратили внимание сверху;

– Минкульту, прекратившему уделять должное внимание Полоцку с момента передачи историко-культурного заповедника в подчинение области, в очередной раз остаться в стороне и в будущем всё списывать на местные власти;

– историко-культурному заповеднику избавиться от головной боли и нагрузки, связанной с регенерацией Верхнего замка (и это при недостатке выставочных площадей для расширения исторической экспозиции и хранилища артефактов);

– Министерству образования при благих намерениях поучаствовать в уничтожении культурно-просветительских, туристических и экономических перспектив развития города (хотя даже в системе образования можно найти учреждения, не создающие подобной проблемы на замчище).

Все «заинтересованные лица» ранее ссылались на отсутствие источников финансирования, а когда появилась возможность их получить со стороны государства, оказались без ясных перспектив их вложения и стали «уносить ноги», забыв о городе, культуре, истории и туристах.

Следует обратить внимание и на беспредметный поиск инвесторов райисполкомом (без основательных проработок по каждому объекту), который выразился в объявлении «ищем инвесторов» в районной газете «Полоцкий вестник» (можно подумать, его читает вся страна) года три назад. Вот и все поиски.

Хочу обратить внимание еще на одну проблему. Произошло неоправданное понижение административного статуса как историко-культурного заповедника, так и города. При этом была разрушена система противовесов.

В начале 2000-х годов Минкульт понизил статус заповедника, подчинив его области и придумав весьма хитрое название – «республиканского значения, областного подчинения». С этого момента он, по сути, снял с себя ответственность за культурное развитие города да и заповедника, отдав на откуп области и местным властям, со значительно более низким культурным потенциалом. Это ярко проявилось уже во второй программе культурного развития города, утвержденной президентом Республики Беларусь, в которой не оказалось ни одного объекта по линии Минкульта, а мероприятия носили спортивный и косметический характер, причем в них напрочь отсутствовала историческая составляющая.

Затем, в 2013 году, понизили статус города, сделав его районным центром. Председателем райисполкома назначили человека, не обладавшего опытом работы в сфере культуры. Квалифицированный аппарат управления городом был уничтожен. Новый руководитель подобрал себе заместителей, ни один из которых не был полочанином (такое произошло впервые на моей памяти), сократил городских специалистов, оставив работников старой районной администрации, не имевших нужного опыта работы такого масштаба. В результате качество работы исполкома, особенно в сфере культуры, резко упало.

Подчинение области заповедника создало ситуацию, когда административная и культурная составляющие оказались под одним руководством. Витебск, безусловно, отдает предпочтение социально-экономическим вопросам, а заповедник ушел на второй план, и он, естественно, снизил свою активность, перестал отстаивать свою позицию, если она входила в противоречие с мнением районной и областной администраций.

В Полоцке явно проявились межведомственные противоречия, они четко выразились в уклонении от ответственности Минкульта, руководства области и района за сохранение и состояние исторического наследия.

Как человек, проживший в Полоцке много лет, я не могу быть равнодушным к судьбе этого, можно сказать, главного города Беларуси. Считаю, что и президент страны Александр Лукашенко, и правительство должны, не теряя времени, предпринять всё для спасения его как колыбели нашей государственности. Прежде всего, пока не поздно, следует отказаться от размещения на Верхнем замке кадетского училища. Если этого не сделает власть, то это сделают протесты людей. Власть не должна провоцировать граждан.

А может, ситуация более примитивна: нет полоцкого Верхнего замка – и ни у кого нет проблем? Тогда к чему мы идем?

**Владимир ТЕЛЕЖНИКОВ,**
**кандидат экономических наук, доцент.**

ОБ АВТОРЕ



**Владимир Иванович Тележников** родился в Полоцке в 1954 году. После окончания средней школы поступил в Белорусский государственный университет. Получив высшее образование, работал на предприятии оборонной промышленности.

В 1990 году был избран народным депутатом Верховного Совета Республики Беларусь. Принимал активное участие в работе комиссии по экономической реформе.

Некоторое время возглавлял экономическое управление Высшего хозяйственного суда. Являлся генеральным директором республиканского объединения предприятий бытового обслуживания.

В настоящее время – на преподавательской работе в Белорусском государственном экономическом университете. Кандидат экономических наук, доцент.

ПРАБЛЕМА!

# Якая вада ў нашых калодзежах?

Актывісты Цэнтра экалагічных даследаванняў з Гродна праводзяць маніторынг пітной вады ў шахтных калодзежах Гродзенскага раёна. Вынікі ўражваюць: у 80% ужо правераных калодзежаў у вадзе зафіксавана ўтрыманне нітратаў, у 3–6 разоў больш за норму.

– *Асноўная мэта нашага даследавання не ў тым, каб праверыць непасрэдна ўсе калодзежы, а ў тым, каб вызначыць прычыны іх забруджвання,* – распавядае «Народнай Волі» эколаг **Яўген Філімонаў**.

У Гродзенскім раёне ўжо праведзены даследаванні больш як 30 калодзежаў, але якасць вады ў іх выклікае насцярогу.

– *Ёсць чыстыя калодзежы, але толькі ў выпадках, калі глыбіня сягае за 15 метраў і калі побач няма калгасных палеткаў,* – канстатуе эколаг. – *На жаль, гэта сустракаецца даволі рэдка, паколькі асноўная прычына забруджвання вады ў калодзежах – калгасныя палеткі.*

У вёсцы Машталеры жыхарка Валянціна Пятроўна распавядае, што карыстаецца вадой з калодзежа выключна для гаспадарчых патрэб. Паводле слоў жанчыны, у вёсцы людзі імкнуцца не піць ваду са сваіх калодзежаў, бо правяралі яе якасць у санстанцыі, і там не рэкамендавалі ўжываць такую ваду ў ежу.

– *За пітной вадой ездзім у Гродна, гэта вельмі нязручна і нятанна,* – распавядае жанчына. – *У мяне малая дачка, і я баюся за яе здароўе. А вось побач жывуць пенсіянеры, дык яны п'юць ваду з нашага калодзежа.*

Яўген Філімонаў паказвае вынікі тэсту: утрыманне нітратаў у вадзе перавышае норму ў 6 разоў. У калодзежах каля суседніх дамоў тое ж самае.

– *Перавышэнне нормы нітратаў у вадзе асабліва шкодна для здароўя дзяцей,* – канстатуе Філімонаў. – *Гэта вельмі дрэнна ўплывае на стан і дарослага чалавека. Нават калі ваду кіпяціць, то нітраты ў ёй усё роўна застаюцца.*

– *Мы не толькі інфармуем людзей аб утрыманні нітратаў у вадзе, але і раім, якія захады прымаць дзеля таго, каб ачысціць яе,* – кажа Філімонаў. – *Часта прапануем паглыбіць калодзеж, пачысціць, а ўжо калі якасць не паляпшаецца, то бурыць свідравіну, каб можна было піць чыстую ваду.*

Але, заўважае эколаг, у вёсках людзі не заўсёды прыслухоўваюцца да іх парад, але калі размова заходзіць пра тое, што ваду п'юць дзеці, то такія аргументы становяцца больш даходлівымі.

– *Калі выяўляюцца яўныя крыніцы забруджання калодзежаў агульнага карыстання, мы адразу звяртаемся да мясцовых улад, пішам лісты ў адпаведныя ўстановы. Пасля праз нейкі час ізноў правяраем там ваду, каб упэўніцца, што яе можна піць людзям,* – гаворыць Філімонаў.

Эколаг распавядае, што актывісты экалагічнага цэнтра ёсць амаль у кожным раёне Гродзенскай вобласці і яны таксама праводзяць маніторынг пітной вады і змяшчаюць вынікі на агульнарэспубліканскім сайце.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**



**Эколаг Яўген Філімонаў з тэстам, які сведчыць аб колькасці нітратаў у вадзе.**

SOS!

# У Лідскім раёне знік 24-гадовы хлопец

Эдуард Міхаловіч, жыхар вёскі Сцеркава Лідскага раёна, увечары быў у гасцях у суседніх Татарцах, якія знаходзяцца ў двух з паловай кіламетрах, і каля 11 гадзін вечара вяртаўся дадому. Ён двойчы патэлефанаваў сваёй дзяўчыне, што заблукаў, пасля гэтага яго тэлефон стаў недасягальным.

Адміністратар Лідскага атрада «Анёл» Таццяна Жоль распавяла «Народнай Волі»: пошукі хлопца ўскладніліся тым, што блізкія не адразу паведамілі ў міліцыю пра знікненне. Эдуард апошні раз выходзіў на сувязь у пятніцу вечарам, а родныя звярнуліся ў міліцыю толькі пасля выхадных.

«Анёл» пачаў пошукі толькі ў аўторак, у іх бралі ўдзел каля 50 чалавек, да гэтага мясцовасць прачэсвала міліцыя.

– Прыехалі прадстаўнікі «Анёла» з Мінска і Баранавічаў, далучыліся вяскоўцы, добраахвотнікі з Ліды, а таксама вайскоўцы, – распавядае Таццяна. – Міліцыя выявіла месца яго апошніх тэлефанаванняў, там усё прачасалі, але безвынікова.

Эдуард Міхаловіч, хутчэй за ўсё, вяртаўся дамоў не па дарозе, а пайшоў напрасткі, каб скараціць шлях, і, паколькі было цёмна, мог заблукаць, нягледзячы на тое, што ён мясцовы чалавек. Дарэчы, на яго шляху сустракаецца некалькі перакрыжаванняў і побач знаходзяцца тарфянікі.

У сераду, нягледзячы на дажджлівае надвор'е, пошукі працягваліся.

У чацвер пошукі вяліся сіламі супрацоўнікаў міліцыі і мясцовых жыхароў.

Эдуард Міхаловіч – інвалід другой групы: у яго параліч правай рукі, і ён кульгае на левую нагу. Яму 24 гады. Калі ўчора гэты нумар газеты адпраўляўся ў друк, аб яго месцазнаходжанні нічога не было вядома.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЮБІЛЕЙ

# Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі – 30 гадоў!

Яна была заснавана 23 студзеня 1990 года па ініцыятыве кіраўнікоў вядучых прадпрыемстваў Беларусі.

БНПА адыграла важную ролю ў пераходны перыяд, калі распаўся Савецкі Саюз і трэба было тэрмінова наладжваць новыя камерцыйныя сувязі. Асацыяцыя ўнесла мноства прапаноў у фарміраванне сучаснага заканадаўства, што паспрыяла развіццю прадпрымальніцкай ініцыятывы, стымуляванню дзелавой актыўнасці і многім іншым працэсам.

Сёння асацыяцыя налічвае амаль 650 членаў – прамыслоўцаў, прадпрымальнікаў, вучоных.

